# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 21 (639) ГОД XIII 26 МАЯ 1968 г. ЦАНА 60 гр.




Спавівачамі звязаныя рукі.
Скуголіш і галосіш нема ты,
Спрабуеш непакорлівыя гукі,
Бяссільны ад уласнай немаТы.

Пачатак слова тут жа захлынецца
І знікне, быццам зайчык на сцяне,
А маці зразумее, усміхнецца
І кофтачку адразу расплікне.

Ад шчасця жмурышся,
у цмоканні і гаме
Прыслухоўваешся к добрым галасам
І мокрымі губамі «ма-ма, мама»,
Упершыню сказаць спрабуеш сам.

У гэтым слове, першым і адзіным, —
Твае жаданні, радасці і боль.
Яго ты шэпчаш цэлыя гадзіны
І ўсё глядзіш на беленую столь.

А вырасцеш — блакітны і зялёны
Перад табою развінецца свет,
Запомняцца інакшыя імёны
І незнаёмы і знаёмы след.

Праляжа сто дарог праз лес і поле.
Між імі ёсць адзіная, — твая.
Ідзі па ёй і не забудзь ніколі
І слова першае і матчына імя.

Сяргей Грахоўскі



## Дзень Маці

Гады дзяцінства, юнацкія гады, гады дарослага чалавека звязваеш з чалавекам, якому агульнае імя — **Маці.**

Гэта яны, Маці, з'яўляюцца цяплом сям'і, на іх спачывае аграмадны абавязак выхавання дзяцей. Гісторыя гаворыць нам аб маці-гераінях, якія вырасцілі не толькі мужных змагароў за сваю айчыну, але якія самі змагаліся за свабоднае дзяцінства дзяцей.

Гераіні-маці залатымі літарамі запісаліся асабліва ў час другой сусветнай вайны, калі бралі на сябе не толькі цяжар утрымання сям'і, але абавязак прадукцыі ўсяго для фронту.

Сёння ў мірны час усё больш уключаюцца ў грамадскае жыццё. Гэта яны з'яўляюцца членамі бацькоўскіх камітэтаў у школах. Але не толькі. Іх сумленнасць і адданасць дае тое, што займаюць яны адказныя функцыі ў сацыялістычнай гаспадарцы нашай краіны.

Настаўніца **Стэфанія Адзіевіч** (на здымку) — з'яўляецца маладой маці. Яна дбае аб выхаванне і ўтрыманне не толькі сваёй сям'і, але і сваіх падапечных — вучняў пачатковай школы ў Орлі. Будучы мамай некалькімесячнага сына, у 1967 годзе закончыла завочна Настаўніцкую студыю з добрай ацэнкай. С. Адзіевіч міма мацярынскіх абавязкаў не занядбоўвае грамадскае працы. З'яўляецца апекуном дружыны зухаў у школе, а таксама з'яўляецца добрай настаўніцай і выхавацельніцай.

А такіх ёсць сотні, тысячы. **І таму з нагоды іх свята, Дня Маці, усім тым маці, якіх валасы ўжо пасівелі, тым, якія вырасцілі герояў мінулага і сённяшняга, тым, якіх дзеці загінулі ў барацьбе за Айчыну, усім маці, якія працуюць у тысячах вёсак і гарадоў, старэйшым і малодшым мамам шлем як найсардачнейшыя святочныя віншаванні.**

**(А. К.)**

**Фота: А. Карпюк**

Вядома, што ёсць гаспадары, якія не цікавяцца нічым, апрача сваіх кароў ды свіней, словам — нічым, што непасрэдна не звязана з гаспадаркай. Ёсць аднак і такія, якіх зацікаўленні выходзяць многа далей, гаспадары, якія цікавяцца шырокім светам, палітычнымі падзеямі ў краіне і за мяжою. Ды не толькі цікавяцца. Людзі гэтыя хочуць мець свой уплыў на падзеі ў іх вёсцы, грамадзе, краіне. Гаспадары гэтыя ўступаюць у рады партыі.

Гаспадары ў беларускіх вёсках з'яўляюцца ў вялікім працэнце такімі менавіта палітычна актыўнымі людзьмі. Працэнт членаў партыі ў беларускіх вёсках — калі разыходзіцца аб вясковае насельніцтва — з'яўляецца адным з вышэйшых у маштабах краіны. Палітычная актыўнасць нашага сялянства мае зрэшты ўжо сваю старую традыцыю. Ад паўстагоддзя амаль нашы сяляне змагаюцца не толькі за свае асабістыя, але і за агульныя грамадскія справы. Да вайны змагаліся яны ў радах КПЗБ і Грамады, пасля вайны — у радах ППР і Польскай аб'яднанай рабочай партыі.

Палітычная актыўнасць нашых сялян выразна ўзрастае ў апошнія месяцы. Сведчыць аб тым найлепш колькасць уступаючых у рады партыі. Мела на гэта свой уплыў атмасфера ўзбуджанай палітычнай актыўнасці ва ўсёй краіне, звязаная з падрыхтоўкай да V з'езда партыі і сакавіцкімі падзеямі. Беларускае насельніцтва такім чынам дэманструе сваё пачуццё еднасці з палітычным жыццём усяе краіны.

Прывядзем аднак прыклады. На найбольшую ўвагу ў Бельскім павеце заслугоўвае партыйная арганізацыя ў Крывой. Пад канец мінулага года прыняла яна ў свае рады 3 новых членаў партыі, а ў гэтым годзе ўжо аж 6 новых членаў. Прытым рэч істотная — новыя члены партыі ў Крывой — людзі маладыя, нядаўнія актывісты ЗМВ. У партарганізацыях

## Палітычная свядомасць гаспадароў

Арэхавіч і Андрыянак у апошнія гады не прынята ніводнага новага члена партыі, тым часам на працягу апошніх некалькіх месяцаў у рады адной і другой арганізацыі ўступіла па 3 новых членаў. Па трох новых членаў прыбыло ў апошнія месяцы таксама партарганізацыям у Плёсках ды Малочках, у Зубаве да партарганізацыі прыбыло чатырох новых членаў. У суме за чатыры першыя месяцы гэтага года ў вёсках Бельскага павета прынята ў рады партыі 90 новых членаў.

Колькаснае развіццё радоў партыі не з'яўляецца аднак адзіным паказальнікам узрастаючай палітычнай свядомасці сялян. Уплывы партыі не толькі пашыраюцца сярод бельскіх сялян, сягаюць яны адначасова, так сказаць, углыб сялянскай свядомасці. Пашыраюцца палітычныя веды сялян, паляпшаецца разуменне праз паасобных гаспадароў сучасных нам палітычных падзей. Дапамагаюць у гэтым розныя формы палітычнай адукацыі, якую праводзяць паасобныя партарганізацыі. Для палепшання палітычна-выхаваўчай дзейнасці сярод сялян паклікаецца ў паасобных грамадах так званыя Грамадскія асяродкі партыйнай прапаганды. У Бельскім павеце дзейнічае зараз 5 такіх асяродкаў — у бліжэйшым часе паўстане 2 новыя асяродкі.

З года ў год пашыраецца колькасць палітычных курсаў на вёсцы Бельскага павета. У мінулым сезоне было іх 81, у гэтым — 90. Агулам рознага тыпу палітычна-асветніцкую працу вяло ў павеце 165 партыйных установаў, у 43 мясцовасцях лектары камітэта выступалі з рознымі дакладамі на палітычныя і светапоглядавыя тэмы.

Узрастае палітычная свядомасць сялян. З'яўляецца яна такім самым неабходным элементам у развіцці грамадства, як і пастаянны ўзрост прафесіянальных, гаспадарчых ведаў нашых гаспадароў.

**Ул. Паўлючук**

## МАЕ СУСТРЭЧЫ З ЮЗЭФАМ БОЯРАМ

Пазнаёміліся мы ў Таварыстве на Сенаторскай. Працягваю на прывітанне руку і падаю сваё прозвішча. Сярэдняга роста, пажылы ўжо мужчына заявіў:

— Мы ўжо крыху знаёмы. Ведаю вас з вашай літаратурнай творчасці.

З нашай уступнай размовы даведваюся, што Ю. Бояр дакладна сарыентаваны ў беларускай літаратуры ў Народнай Польшчы, ведае ўсіх маіх сяброў па пяру не толькі з прозвішчаў, але і з іх літаратурнай дзейнасці. Як неўзабаве выявілася Ю. Бояр у сваёй багатай уласнай бібліятэцы мае ўсе зборнікі Беларускага літаратурнага аб'яднання «Белавежа», якія набывае будучы ў камандзіроўцы ў Беластоку. «Хачу, — сказаў мой прыемны субяседнік, — прадставіць польскаму чытачу і творчасць беларускіх паэтаў і празаікаў пражываючых у нашай краіне. Асаблівую сімпатыю адчуваю да вашай літаратурнай групы. Усе вы мне душэўна блізкія, таму што і я паходжу з сялянскага асяроддзя».

У даўжэйшай гутарцы з гаваркім субяседнікам выявілася, што Ю. Бояр добра знаёмы з беларускай савецкай літаратурай, сочыць за яе навінкамі і падбірае сабе найбольш блізкую сэрцу і густам творчасць беларускіх пісьменнікаў да мастацкага перакладу на польскую мову.

Пасля нашага ўступнага знаёмства Ю. Бояр запрасіў мяне дахаты. Аказалася, што мы жывем па-суседску. Пераступаючы парог памяшкання Ю. Бояра, адразу захапіла мяне аграмадная колькасць кніжак. Пасля бліжэйшага з імі знаёмства выявілася, што некалькі паліц запоўнена беларускай мастацкай літаратурай.

Адкуль такое зацікаўленне літаратурамі славянскіх народаў? — накіроўваю пытанне да Ю. Бояра. У адказ гасцінны гаспадар падае мне свой артыкул «Аб збліжэнні славянскіх народаў», змешчаны ў «Весь і Паньство» нр 8 за 1946 год, у якім між іншым напісаў:

„Najlepszym i najdoskonalszym źródłem wzajemnego poznania się będzie wymiana dóbr kulturalnych między Słowianami. Z dóbr kulturalnych na pierwszym miejscu musimy postawić literaturę. Przez literaturę możemy poznać ducha danego narodu, poznać jego przeszłość, teraźniejszość, jego dążenia i ideały."

Пазнаваць «духа» славянскіх народаў, іх літаратуру, займацца перакладамі славянскіх літаратур на польскую мову можна толькі ведаючы славян-

(Працяг на стар. 4)



# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Весткі

## СВЕТ

### ДАГАВОР

Польшча і Венгерская Народная Рэспубліка аднавілі дагавор на далейшых дваццаць год. Падпісанню гэтага дакумента, у памяшканні будапешцкага парламента, спадарожнічалі гарачыя словы дружбы выказаныя Ул. Гамулкаю і Я. Кадарам. Асноўным матывам абедзвюх прамоў быў націск на адзінства сацыялістычнага лагера супраць новым формам зімнай вайны, якія прымяняе імперыялізм. «Ураду ў Бон, — гаварыў У. Гамулка, — трэба сказаць адкрыта: сітуацыя ў заходняй Германіі, новая хваля нацыяналізму ў гэтай краіне, не з'яўляецца толькі ўнутранай справай гэтай дзяржавы».

### РАЗМОВЫ

Ад 13 мая т.г. у Парыжы працягваюцца размовы між прадстаўнікамі ЗША і ДРВ. Шэф в'етнамскай дэлегацыі адразу сфармуляваў асноўныя пункты погляду сваёй краіны: «Ханой, — сцвярджае французскі друк, — чакае на ясны і дэфінітыўны адказ Вашынгтона ў справе спынення бамбардзіровак і ўсялякіх іншых актаў вайны». Нічога падобнага не выйшла з вуснаў шэфа амерыканскай дэлегацыі Гарымана. Яго прамова была рэкапітуляцыяй дагэтуляшніх тэзісаў палітыкі Джонсана.

Некаторыя каментатары паказваюць не абгрунтаваны недавер Ханой. Лонданскі «Таймс» напамінае, што **в'етнамцы ўжо два разы ставаліся ахвярай злоўжывання іх давер'я. Упершыню ў 1946 г.,** калі французы парвалі дагавор ад 1945 г. і зноў спрабавалі накінуць сваю ўладу Індакітаю. **Другі раз** пасля жэнеўскіх дагавораў ад **1954 г.,** якія парвалі ЗША, паднімаючы інтэрвенцыю ў падтрымку сайгонскага рэжыму з намерам закраплення падзелу В'етнама, а на Поўдні ўстанаўлення сваёй дамінацыі. Перагаворы, дзеля гэтага будуць працягвацца, а в'етнамцы будуць дамагацца сапраўдных гваранцыі.

### РАСПАД ХЕЎРЫ

Марыянеткавы прэм'ер Паўднёвага В'етнама Нгуен Ван Лок падаў у адстаўку. Адстаўка гэта з'яўляецца адлюстраваннем адкрытага крызісу, які паўстаў між «прэзідэнтам» Т'еу а «віцэ-прэзідэнтам» Кы. Крызіс павялічылі адбываючыеся ўступныя размовы ў Парыжы. Дагэтуляшні прэм'ер Лок з'яўляецца блізкім сябрам Кы.

«Віцэ-прэзідэнт» Кы ад некалькіх тыдняў заклікае да працягвання барацьбы з партызанамі, нават калі б амерыканцы перасталі дапамагаць Паўднёваму В'етнаму. Мае ён падтрымку групы афіцэраў і часткі в'етнамцаў каталіцкага веравызнання. А прэзідэнт Т'еу не займае варожага становішча адносна парыжскіх размоў, а падтрымліваюць яго паўднёвав'етнамскія будысты.

### А. КАСЫГІН І А. ГРЭЧКА...

...у Празе. А. Касыгін прыехаў у Чэхаславакію на кароткі адпачынак па запрашэнню Прэзідыума ЦК КПЧ і Чэхаславацкага ўрада. Па запрашэнню міністра абароны Чэхаславакіі прыехала сюды савецкая ваенная дэлегацыя з міністрам абароны СССР А. Грэчкам.

А. К.

## БССР

### БЕЛАРУСКАЙ

У гадавіну заканчэння вайны — 9 мая — адбылося ў Мінску ўрачыстае ўручэнне Беларускай ваеннай акрузе ордэна Чырвонага Сцяга. З прамовай выступіў першы сакратар ЦК КП П. Машэраў.

Камандуючы войскамі Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі генерал-палкоўнік І. Трацяк, між іншым, сказаў, што разам з працоўнымі Савецкай Беларусі воіны Чырвонасцяжнай Беларускай ваеннай акругі рыхтуюцца дастойна адзначыць 50-годдзе Беларускай Рэспублікі і Кампартыі Беларусі.

### ТРАДЫЦЫЙНЫ

У мястэчку Высокае, Брэсцкай вобласці, адбыўся традыцыйны мітынг савецка-польскай дружбы, прысвечаны перамозе над гітлераўскімі захопнікамі. Удзельнічала ў ім 400-асабовая дэлегацыя Бяла-Падляскага павета.

### ПАГАДНЕННЕ

14 мая Беларуская ССР падпісала ў Маскве Пагадненне аб выратаванні касманаўтаў, вяртанні касманаўтаў і вяртанні аб'ектаў, запушчаных у касмічную прастору.

Пагадненне падпісаў ад імя ўрада БССР намеснік міністра замежных спраў БССР А. Шэльдаў.

### ГОСЦІ

Дэлегацыя Саюза чэхаславацка-савецкай дружбы наведала Мінск, пабывала на падшыпнікавым заводзе, агледзела выдатныя мясціны беларускай сталіцы. Чэхаславацкая дэлегацыя прыняла ўдзел ва ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў працоўных Мінска, прысвечаным 23-яй гадавіне вызвалення Чэхаславакіі ад фашысцкіх захопнікаў.

### МІНСКАЙ

На кінафестывалі рэспублік Прыбалтыкі, Малдавіі і Беларусі, які адбыўся ў Таліне (Эстонія), найбольшы поспех сярод кароткаметражных дакументальных фільмаў меў фільм Мінскай студыі навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў «Пакаранне смерцю ў сорак першым».

### АРЭХВА

Н. Арэхва напісаў артыкул «Яшчэ адна старонка гісторыі», напісаны пры нагодзе выхаду ў свет кніжкі У. Палуяна «Беларуская сялянска-рабочая Грамада». Артыкул змешчаны ў «Звяздзе» ад 12 мая т.г.

### НАФТАВАЯ РАКА ПАЛЕССЯ

Пяцісоттысячную тону нафты здабылі з пачатку года да сённяшняга дня прамыславікі Беларусі. Адна за адной уступаюць у эксплуатацыю буравыя.

На Шацілкаўскай плошчы брыгада І. Г. Астапава пачала бурыць шчыліну праектнай глыбінёй да 4.300 метраў. Цяпер у Палессі фантануе 30 шчылін.

### КОНКУРС ПРАПАГАНДЫСТАЎ

У Беларускім дзяржаўным універсітэце праведзен конкурс прапагандыстаў, прысвечаны пяцідзесяцігоддзю БССР. Удзельнікі конкурсу — студэнты і аспіранты — выступілі з лекцыямі на тэму «Дасягненні Беларусі за 50 гадоў».

С. Я.

## ПОЛЬШЧА

### ПЛЕНУМ ЗСЛЬ

17 мая адбылося VII пленарнае пасяджэнне Галоўнага камітэта аб'яднанай сялянскай партыі (ЗСЛь). Абрады адкрыў і з уступным словам выступіў прэзас Галоўнага камітэта ЗСЛь, Чэслаў Выцэх. Затым адбылася дыскусія над дакладам, якога тэкст быў раней разасланы членам Галоўнага камітэта ЗСЛь. Даклад прысвечаны метадам далейшага развіцця сельскагаспадарчай прадукцыі. Сцвярджаецца ў ім, што асноўным заданнем сельскай гаспадаркі з'яўляецца ўзрост плёнаў і таварнай прадукцыі збожжа. Многа месца прысвяцілася справам уласцівай гаспадаркі зямлёю і ўласцівага выкарыстання зямлі. Даклад сцвярджае неабходнасць стварэння лепшых умоў абароту зямлёю ў маштабах сялянскіх гаспадарак, так каб магла яна больш спраўна пераходзіць у рукі тых гаспадароў, якія вядуць інтэнсіўную, высокапрадукцыйную гаспадарку. У сувязі з тым лічыцца патрэбным ліквідаванне падатку ад набыцця маёмасных правоў, які абмяжоўвае ўласніцкі абарот зямлёю і стварае цяжкасці ў пераймані гаспадаркі маладымі гаспадарамі. Даклад быў прыняты Галоўным камітэтам ЗСЛь, як праграмныя ўказанні ў дзейнасці гэтай партыі.

### ПРЫЁМ У ВНУ

14 мая міністр Асветы і вышэйшага школьніцтва выдаў «Указанні ў справе прынцыпаў і парадку кваліфікавання кандыдатаў на І год дзённых студыяў у 1968/1969 навучальным годзе». Сэнс гэтых указанняў у тым, каб запэўніць большы доступ да вышэйшага школьніцтва моладзі рабочага і сялянскага паходжання, а таксама ў тым, каб больш рацыянальна весці падборку кандыдатаў на паасобныя напрамкі, узмоцніць кантролю грамадства над працэсам кваліфікавання, а таксама павысіць ролю настаўніка і ацэнкі сярэдняй школы аб прыдатнасці кандыдатаў на вузы. Аб прыняцці рашаць будзе вынік экзамена і дадатковыя кваліфікацыйныя крытэрыі. Як і ў мінулым годзе, абавязваць будзе пунктавая сістэма. Кандыдатам з рабочых і сялянскіх сем'яў давацца будзе дадаткова 5 пунктаў.

### РАСПІСАННЕ

Уночы з 25 на 26 мая ўваходзіць у жыццё новае расписанне руху на польскіх чыгунках. Абавязваць яно будзе да 31 мая 1969 года. У сувязі з агранічанымі транспартнымі магчымасцямі новае расписанне не прадбачвае большай колькасці новых спалучэнняў, тым не менш пры апрацоўцы расписання бралася пад увагу пастулаты пасажыраў, якія мелі на ўвазе паляпшэнне ўмоў падарожжа.

### КІРМАШ КНІЖКІ

У Вроцлаве адкрыта XIII Міжнародны кірмаш кніжкі, на якім сустракаюцца выдаўцы розных краін Усходу і Захаду. На 287 стэндах, якія займаюць агулам плошчу 4.100 квадратных метраў, амаль 2.400 выдаўцаў з 25 краін свету выставіла 60 тысяч тамоў кніжак.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ДЗЕНЬ БУДАЎНІКОЎ

Прафсаюз працаўнікоў будаўніцтва аб'ядноўвае на Беласточчыне звыш 15 тысяч членаў. 18 мая ўрачыста адзначалі яны сваё свята. З гэтай нагоды адбылося ўрачыстае пасяджэнне ў беластоцкім тэатры. У пасяджэнні, між іншым, прыняў удзел тав. А. Лашэвіч. Варта адзначыць, што толькі на працягу 5-ці апошніх год калектывы рабочых - будаўнікоў Беластоцкага ваяводства, між іншым, аддалі ў карыстанне амаль 40 тысяч жылых кватэр, 125 школ, звыш 40 будынкаў для прамысловых прадпрыемстваў. У даз'ездаўскім прадукцыйным чыне прымае актыўны ўдзел 6 тысяч рабочых будаўнікоў, а вартасць гэтага чыну аблічваецца на звыш 20 мільёнаў злотых. Актуальныя планы будаўнікі Беласточчыны выконваюць, беручы агульна, паспяхова.

### ЯШЧЭ ПРА АЛЕРТ

IV Алерт Саюза польскіх гарцэраў Беластоцкага ваяводства закончыўся ўрачыстасцю ў мясцовасці Петрашы пад Беластокам, дзе знаходзіцца могільнік 6-ці тысяч людзей замучаных гітлераўцамі. На могільніку сабраліся гарцэры Беластока. Камендант IV-тага Алерту Ежы Мэр адзначыў, што гарцэры Беласточчыны ўзялі пад сваю апеку звыш 300 месц, дзе загінулі змагары за вызваленне ад фашысцкай акупацыі. Гарцэры ў гонар V з'езда ПАРП прынялі на сябе абавязацельствы, вартасць якіх ацэньваюць на 1 мільён 700 тысяч злотых. З прамовай выступіў таксама сакратар прапаганды Ваяводскага камітэта, тав. В. Мікульскі.

### МАСТАЦКІ АГЛЯД

Як штогод адбыўся ў маі ў Беластоку Ваяводскі агляд школьных аматарскіх мастацкіх калектываў, у якім, між іншым, з падборкай твораў савецкіх аўтараў выступілі вучні тэхнікума лесаапрацоўчай прамысловасці ў Гайнаўцы.

### СУСТРЭЧА

18 мая сустрэліся дзеячы культуры з кіраўніцтвам Ваяводскай камісіі прафсаюзаў і прэзідыума МРН у Беластоку. Сустрэча была наладжана з нагоды Дня дзеяча культуры. 42 найбольш актыўных дзеячоў культуры атрымала ад прафсаюзаў грашовыя ўзнагароды, а Аддзел культуры Прэзідыума МРН у Беластоку ўзнагародзіў дзесяць дзеячаў культуры.

### ЧЫН

Звыш 200 чалавек з Орлі і Крывяціч, у Бельскім павеце, а таксама 12 сельгасгурткоўскіх трактараў прыняло ўдзел у пабудове грамадскім чынам дарогі з Орлі ў Крывяцічы.

### ВАДА ДЛЯ МЕЛЬНІКА

Жыхары Мельніка вельмі многа клопатаў мелі з-за недахопу добрай вады для піцця і гатавання. Вада тут была занячышчана крэйдай. Пасля доўгіх і цярплівых пошукаў мельніцкаму крэйдаваму прадпрыемству ўдалося натрапіць на крыніцу добрай і здаровай вады.

(вр)




**NIEDZIELA, 26.V.**

9.15 Program dnia. 9.20 TV Kurs Rolniczy. 9.55 „Przypominamy, radzimy". 10.10 Film fab. 11.35 PKF. 11.45 „Mozambik" — film kan. 12.00 Wiadomości dziennika. 12.10 Koncert Orkiestry Symfonicznej Filharmonii Wrocławskiej. 12.55 „Świadek naszych czasów Jorge Wens". 13.55 „Przemiany". 14.25 Program dla dzieci: „Cuda i dziwy". 14.55 „Kraków wczoraj i dziś" — teleturniej. 15.50 „Portrety". 16.40 Teatr Telewizji na świecie — „Matka z Turynu". 18.00 „Tajemnice dębowej szkatuły" — rep. filmowy. 18.15 Sprawozdanie sportowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Satyr i satyra". 20.55 „Krwawa vendetta" — film fab. fr. 22.20 „Niedziela Sportowa".

**PONIEDZIAŁEK, 27.V.**

15.45 i 22.10 Politechnika TV II roku. Elektrotechnika. 16.25 i 22.45 Politechnika TV II roku. Elektrotechnika. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Kino Ptyś". 17.15 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.30 TV Magazyn Postępu Technicznego. 17.30 „Spacerkiem po kinach". 18.35 „Soczi" — film radz. 18.50 „Azymut" — młodzieżowy magazyn wojskowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Teatr TV. W. Ławrentiew: „Czcij matkę swoją". ok. 21.25 „Uśmiechnięty kanclerz" — program dokument. 21.50 Dziennik. TV.

**WTOREK, 28.V.**

10.00 Dla szkół (kl. III) „W ZOO". 10.20 „Trzy klucze" — film fab. jug. 12.00 Dla szkół (kl. II) „Barwy wiosny". 12.30 i 15.10 „Przysposobienie Rolnicze" — „Wychów prosiąt". 13.05 Przerwa. 15.45 i 23.00 Politechnika TV II roku. Fizyka: 16.25 i 23.35 Politechnika TV II roku. Fizyka. 16.55 Dziennik TV. 17.00 Dla młodych widzów: „Jak dawniej budowano". 17.40 „Nie tylko dla pań". 18.00 „Na zdrowie". 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.35 „Droga do dyplomu". 18.50 „Na tropie blagi" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Studenckie niedziele" — program Redakcji Młodzieżowej. 20.30 „Trzy klucze" — film fab. jug. 22.10 Magazyn Medyczny. 22.40 Dziennik TV.

**SRODA, 29.V.**

9.30 „Co słychać, młody człowieku" — film fab. węg. 10.55 Dla szkół (kl. VII) Fizyka: 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół (kl. VIII). 13.25 „Matematyka w szkole". 14.00 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.25 i 23.10 Politechnika TV I roku. Matematyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Z wizytą w Dolinie Leśnego Młyna". 17.30 „Z drugiej strony szklanego ekranu". 17.40 „Piękno w metalu" — film TV (Tallin). 17.55 „Za kierownicą". 18.25 „Od Straussa do Kalmana". 19.00 „Zawodowa oferta" — program filmowy o zawodach dla młodzieży po szkole podstawowej. 19.10 Dobranoc. 19.20 Dziennik TV. 19.40 Sprawozdanie z finałowego meczu o Puchar Klubowych Mistrzów Europy (Londyn). W przerwie, ok. 20.30 PKF. 21.30 „Światowid". 22.00 Dziennik TV.

**CZWARTEK, 30.V.**

9.55 Dla szkół (kl. VIII) Historia: „Proces w Norymberdze". 10.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół (kl. VII i VIII) Język polski: „Spotkanie z Haliną Rudnicką". 12.25 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 23.00 Politechnika TV I roku. Geometria: 16.25 i 23.35 Politechnika TV I roku. Wytrzymałość materiałów. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.15 Teatr Młodego Widza: „Dziewięć złotych naczyń". 18.00 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.35 „Spragniona ziemia" — film Tele-Aru („Z kamerą po świecie"). 18.40 „Tytania i osioł" — widowisko baletowe. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 Program dokumentalny. 20.35 „Nieznany zdrajca" — film fab. fr. 22.10 „Na widowni". 22.25 Dziennik TV.

**PIĄTEK, 31.V.**

10.00 „Nieznany zdrajca" — film fab. fr. 11.30 Przerwa. 15.40 Program dnia. 15.45 i 22.35 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.25. i 23.10 Politechnika TV I roku. Fizyka. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Dla dzieci: „Zręczne ręce". 17.15 „Kino Filmów Amatorskich". 17.45 „Klub Dobrych Gospodarzy". 18.15 TV Kurier Mazowiecki. 18.30 Wszechnica TV: „Przed milionami lat". 19.00 „Śpiewa Bronisława Baranowska". 19.15 Dobranoc. 19.30 Dziennik TV. 20.05 „Kontakty". 20.35 „Duch z Conterville" — film fab. 21.25 „Pejzaże". 21.45 „Dobry wieczór, jak minął dzień". 22.15 Dziennik TV.

**SOBOTA, 1.VI.**

10.00 „Czarny Orfeusz" — film fab. franc.-wł. 11.45 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Międzynarodowy Dzień Dziecka: „Zawsze niech będzie słońce" (Moskwa). 15.55 TV Kurs Rolniczy: „Choroby drzew owocowych". 16.30 Program Tygodnia. 16.55 Wiadomości dziennika. 17.00 Międzynarodowy Dzień Dziecka: „Życzymy sobie" — program rozrywkowy. 18.00 „Nasz przyjaciel" — film radz. 19.05 „Wieczorne rozmowy". 19.20 Dobranoc. 19.30 „Monitor". 20.10 „Pegaz" — magazyn aktualności kulturalno-artystycznych. 20.55 „Divertimento op. 7" — program rozrywkowy. 21.55 Dziennik. TV. 22.10 Wiadomości Sportowe. 22.20 „Czarny Orfeusz" — film fab. wł.




**Piątek, 24 maja**

8.30 Film „Cichy Don". I seria. 15.00 Nowiny. 15.10 Program dnia. 15.15 „Anton i Anka" — telewizyjny spektakl. 16.00 Pogadanka „Dochód narodowy". 16.30 Klub kinopodróżników. 18.00 Sztafeta Nowin. 19.00 Koncert. 20.00 Wszystko o piłce nożnej. 21.00 „5 + 2" tygodniowy przegląd. 21.40 „Program muzyczny.

**Sobota, 25 maja**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.45 Telewizyjne nowiny. 8.00 Muzyczny program „Z dniem urodzin". 8.30 Dla studentów — matematyka. 9.00 Matematyka. 10.00 Fizyka. 10.30 Technologia metalu. 11.00 Gimnastyka i sport. 11.30 Muzyczny kiosk. 12.00 Dla młodzieży „Dym ojczyzny" spektakl. 13.30 W eterze „Młodość". 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Operacja — „Trest" — film III seria. 17.30 Ogoniok. 18.45 „Czas". Program informacyjny. 19.15 W świecie obrazów i farb. 20.00 Specjaliści sztuki. Zoja Fiodorowa. 21.15 telewizyjne nowiny. 21.30 Program. 23.35 Koncert estradowy.

**Niedziela, 26 maja**

6.55 Program dnia. 7.00 Gimnastyka. 7.15 Budzik. 7.45 Telewizyjne nowiny. 8.00 Kalendarz telewizyjny. Dzień chemika. 8.30 „Białe i Czarne". Klub szachistów. 9.00 Na warcie ojczyzny. 9.15 Muzyczna szkatułka. 9.30 Ekran dla dzieci „Pierwsza ekspedycja — film. Przygody kota-wychwalacza". 10.25 Dla uczniów „Symfonia szczęścia". 11.00 Koncert. 13.00 Okręty nie umierają. Film dokumentalny. 14.00 Na dzień Chemika. 14.30 Program telewizji kolorowej. 16.00 Operacja „Trest". Film. IV seria. 17.30 Europa, kraje, problemy. 18.15 Straszny sąd — spektakl. Podczas przerwy nowiny telewizyjne. 20.30 W eterze „Młodość". 23.30 Tylko fakty. „Muzyczny majak".

# КАБ ЛЕС ВЯРНУЎСЯ...

Калісьці паўднёвая і ўсходняя частка Сакольшчыны была адным вялікім стройным лесам, які па праву можа лічыцца найвялікшым скарбам гэтай зямлі. Яшчэ за памяці старых людзей былі лясы навокал такіх «запалянскіх» цяперашніх мясцовасцей, як Астравок, Крынкі, Юраўляны.

Гэтыя лясы павыкуплялі і вырубалі купцы, зусім не дбаючы аб пасадкі. Пасля гэтых купецкіх рабункаў засталіся «горы», іначай кажучы, удзірванелыя пясчаныя пагоркі, на якіх нічога не расце, нават дзікай травы няма. Пушчу адсунута далёка, на лінію вёсак Нетупа, Маркаў Выган, Паўночнае Вострава, Равок.

Апошнім часам павятовыя ўлады ў Саколцы зацікавіліся ўрэшце справамі пасадкі маладога лесу. Едучы да Крынак цешымся буйназялёнымі маладнякамі на Слаянскіх «горах», ці на Лапіцкіх «горах», у кірунку Крушынянаў. Ды ўсё гэта толькі невялікія зялёныя выспы пасярод пустак на сотні гектараў. **Вельмі марудна адбываецца пасадка лесу ў тамтых ваколіцах.**

Лес у наш прамысловы час мае вялікае гаспадарчае значэнне, але можам пакінуць пад лесам адно найгоршыя землі, хаця моцна патрабуем драўніны, дрэва наогул. Таму, здаецца, мясцовыя ўлады павінны патрактаваць справу пасадак, як праблему нумар два, калі — не адзін. Зямля слаянская, крынкаўская, крушынянская, лапіцкая, юраўлянская можа даць багацце значна большае, чым жытца па калені. Пішу аб гэтым невыпадкова, памятаючы пра нешчаслівую ініцыятыву арганізацыі ПГР-у на юраўлянскіх «горах». ПГР, як гаворыцца, абанкроціўся. Іначай не магло быць. Гэта зямля кліча свайго драўлянага ўласніка, кліча лесу. Натуральная гэта просьба зямлі, і нельга з ёю не лічыцца. (ся)

# МАЕ СУСТРЭЧЫ З ЮЗЭФАМ БОЯРАМ

**(Працяг са стар. 1)**

скія мовы і зразумела маючы літаратурныя здольнасці. Таму зацікавіла мяне бліжэй постаць майго сімпатычнага субяседніка.

Ю. Бояр нарадзіўся 22.II.1907 года ў вёсцы Іздэбна Краснастаўскага павета на Люблінишчыне ў польскай сялянскай сям'і. У 1927—1941 гадах ён працаваў настаўнікам ва украінскім асяроддзі на Валыні. Там ён пазнаёміўся з украінскай мовай і літаратурай, з украінскім насельніцтвам, з заходнеукраінскімі пісьменнікамі, у першую чаргу са Стэфанікам, якога лічыць найлепшым майстрам навелы ва украінскай літаратуры і творы якога асабліва любіць перакладаць.

Ад наймалодшых гадоў Ю. Бояр з'яўляецца сялянскім дзеячам. Быў ён членам прагрэсіўнай маладзёжнай арганізацыі «Віці» і «Странніцтва Людовага» на Валыні. У апошні час з'яўляецца актыўным дзеячам ЗСЛь і працуе рэдактарам у Выдавецтве Прэса ЗСЛь.

Ю. Бояр яшчэ да вайны займаўся ўласнай літаратурнай і публіцыстычнай дзейнасцю. Пісаў вершы, навелы, фельетоны, артыкулы, якія змяшчаліся ў прагрэсіўных сялянскіх часопісах. Пасля вайны ў 1948 годзе выйшаў з друку зборнік вершаў Ю. Бояра «Сэрца зямлі». Апавяданні і вершы Ю. Бояра друкаваліся між іншым у чэшскім часопісе «Straż severu».

Цікава прадстаўляецца літаратурна-перакладчыцкая праца Ю. Бояра ў апошні час. Падрыхтаваў ён да друку зборнік 500 прыказак, афарызмаў, анекдот, баек і легенд славянскіх народаў пад загалоўкам «На тропах Бахуса». Дэвіз зборніка — чалавек павінен піць культурна. У падрыхтоўцы да друку знаходзіцца таксама «Крамік марынарскі», у якім сабрана звыш тысячы марыністычных анекдот, прыказак і пагаворак славянскіх народаў, у тым таксама і беларускіх.

Ю. Бояр пераклаў дагэтуль звыш 1500 апавяданняў, навел, казак, гумарэсак і легенд славянскіх народаў. З гэтага ліку звыш 70 пазіцый прыпадае на беларускую літаратуру. У мастацкім перакладзе Ю. Бояра знайшліся творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Танка, К. Крапівы, М. Лынькова, П. Пестрака, Я. Маўра, Я. Брыля, А. Пальчэўскага, М. Пянкрата, М. Макаля, Р. Сабаленкі, І. Гурскага, І. Грамовіча, А. Васілевіч, Я. Бяганскай, І. Кавалёва, І. Шамякіна, І. Дуброўскага, В. Зуба, М. Смагаровіча, У. Краўчанкі і іншых.

Ю. Бояр пераклаў таксама на польскую мову сцэнічныя творы Ул. Няфёда «У адным клубе» і А. Рылько «У ціхім закутку».

Мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў у перакладзе Ю. Бояра на польскую мову друкаваліся ў кніжных выданнях, у шматтыражных часопісах і газетах, у сцэнічных матэрыялах, чыталіся па Польскім радыёвяшчанні ў «Дні беларускай культуры».

Ю. Бояр сваёй багатай перакладчыцкай працай прычыняецца да збліжэння славянскіх народаў, да папулярызацыі сярод польскіх чытачоў таксама і беларускай мастацкай літаратуры. Жадаем Ю. Бояру далейшых поспехаў у яго жыватворчай дзейнасці.

**Віктар Швед**

# Адкрыццё Бахуроў

Як вёска Бахуры Бахурамі, а прынамсі пры памяці цяперашняга пакалення, ніколі не было тут ніякага канцэрта або «прадстаўлення». Таму з асаблівай дакладнасцю варта падаць да ведама, што 6.V. г.г. адбыўся тут першы канцэрт і то «Лявоніхі», нашай папулярнай эстрады.

«Лявоніха» першы раз пабывала з канцэртам таксама і ў недалёкай вёсцы Буды, Беластоцкага павета. У Будах канцэрт адбыўся пад, так званым, голым небам — дакладней кажучы, у цяню кустоў буйнага майскага бэзу. Зышлася хмара народу.

Мастацкім кіраўніком нашай эстрады «Лявоніха» з'яўляецца зараз **Юрка Гаўрылюк.** (ся)

# ТЫНЕВІЦКАЯ ЧАКАЛЬНЯ

У чакальнях чакаюць, таму і называюцца чакальнямі. Чакаць можна на прыём у лекара, у начальніка, у суддзі, адваката ці пракурора, і гэтак далей. У Малых Тыневічах, што на Гайнаўшчыне, таксама чакаюць, але невядома толкам хто-каго? Тут, за клунямі Малых Тыневічаў, праведзена вялікую меліярацыю багнаў, якія цяпер сталі роўнымі зялёнымі прасторамі з буйнай травою. Трава буйная, сена многа ды нядобрае яно, быдла не хоча есці, гінуць цяляты. Кажуць, калісьці трава была хоць дзікая, але смачная... Меліярацыя многіх засмуціла, гаварылі аб гэтым аграному з Нарвы, пасланцам павятовых улад і кожнаму, хто тут паяўляўся. Гаварылі ў надзеі выяснення, помачы — і чакаюць помачы. Вядома, можна і трэба ганіць агранома з Нарвы ці Кленік, і іншых прадстаўнікоў улад, яны толькі паслухалі і паехалі, і хвастом накрыліся, як кажуць злаcліўцы. Але найбольш вінаваты ва ўсёй гэтай гісторыі самі тыневіцкія людзі, бо помачы трэба не чакаць, але цвёрда дамагацца. Цвёрда! Не па тое патрачана тару грошай на меліярацыю, каб гінулі цяляты, гамавалася жывёлагадоўля. Зямля тарфяная ў многіх месцах, прымаецца ўсяго адзін гатунак травы, мяшанкі выраднеюць. Чаму?

Беластоцкія начальнікі пацiснулі плячыма і сказалі: можа трэба пасеяць другі камплект мяшанак, іншы нумар камплекту, пусціць «талеркі» і т.д. Ці гаспадары з Малых Тынявіч звярнуліся ў гэтай справе ў Гайнаўскую раду, у Інспектарат меліярацыі, дзе працуе спецыяліст па лугаводству Іван Раманюк? Не, не звярнуліся. Чакалі. Трэба звярнуцца, паехаць у Гайнаўку, пагаварыць. Інспектарат нікому не робіць ласкі, ён абавязаны давесці справу да ўдачнага канца. Па тое ён і ёсць. Кажуць, Гайнаўка злосная, што мясцовая водная суполка ўхваліла замалыя складчыны. Можа і злосная, але гэта толькі здагадкі. Трэба ехаць, ніхто не паехаў. Толькі крычаць, як утопленнік, таго замала! Так.

На свеце вясна, гэты лугавы год ратаваць ужо бадай позна, але другі можна. Лепей позна, чым ніколі.

Альбо вулічнае асвятленне. Даўно таму назад у Малых Тыневічах пабудавана вулічную лінію, устаноўлена на слупах абажуры, устаноўлена дошку для электрычнага лічыльніка. Тры ці чатыры гады тыневіцкія людзі чакаюць, калі гэта загарацца на іх вуліцы электрычныя лямпачкі. Так і век цэлы можна чакаць! Аказваецца, той манцёр, які за грошы Грамадскай рады рабіў лінію вулічнага асвятлення, усяго не дарабіў, нават не склаў у бельскай «электроўні» законнай фірменнай просьбы на ўстаноўку лічыльніка. Чаму не склаў? На якой падставе Грамадская рада (Кленіцкая) згадзіла яго і хіба заплаціла яму, бо ж дарэмна не рабіў? Спецыяліст з ліцэнзіяй ці халтуршчык? Ад гэтай ніткі можна дайсці да клубка — справа вельмі канкрэтная. Ёсць мясцовыя радныя ГРН, ёсць солтыс. Не чакаць! Вёска — гэта не чакальня, а час як іржа, як пясок, што засыпае вочы. Працерці іх трэба! (ся)




**ЗНАХОДКА**

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Хлопцы адпачывалі, цярпліва чакаючы, пакуль зварыцца юшка і спячэцца бульба, пільна сачылі за кожным рухам Семафора. Нарэшце ён пакаштаваў юшку, падчапіў рыбіну — гатова!

— Ну, браткі, бярыце лыжкі, будзем сёрбаць! — парадаваў Уладзік сяброў, здымаючы з калка вядзерца з юшкай.

Другі раз запрашаць нікога не трэба было. Усе дружна накінуліся на юшку, заядаючы яе хлебам і печанай бульбай. Смачна! Дома маці ніколі так не згатуе!

Сонца тым часам схілілася на за-

# Умовы прымусовага выкупу зямлі

Распараджэнне Міністра сельскай гаспадаркі ад 26.III.1968 г. акрэслівае ўмовы, у якіх сельская гаспадарка лічыцца занядбанай і можа быць прымусова выкуплена.

Сельская гаспадарка лічыцца занядбанай калі:

1) Не ўсе ўпраўныя ўгоддзі выкарыстаны.

2) Збор асноўных збожжаў і бульбы меншы прынамсі на 1/3 ад сярэдніх ураджаяў у данай вёсцы на такіх самых глебах.

3) На 1 га ўгоддзяў прыпадае менш чымсьці 0,4 або двух свіней, або чатыры авечкі.

Ці гаспадарку можна прызнаць занядбанай — вырашае камісія, якая складаецца з трох спецыялістаў паклiканых аддзелам сельскай гаспадаркі прэзідыума Павятовай рады народовай. На прапанову гэтай камісіі прэзідыум ПНР выдае пастанову аб прымусовым выкупе.

Аб пасяджэнні прэзідыума паведамляецца ўласніка гаспадаркі, які можа ўзяць удзел у пасяджэнні і злажыць выясненні. На яго прапанову прэзідыум можа ўстрымацца з выданнем пастановы аб прымусовым выкупе да канца наступнага года. Калі прызнае, што гаспадар дае гарантыю адпаведнага загаспадаравання.




Даўным даўно, калі яшчэ чалавек не ўмеў араць, калі жыццё яго не вельмі адрознівалася ад жыцця звяроў — агонь, гэтая таемная знішчальная сіла, быў для чалавека вялікім прыхільнікам і смяротным ворагам. Людзі да агню маліліся, лічылі яго магутным богам, у якога безупынна трэба прасіць аб ласку. Ды яшчэ і зараз на прыдарожных крыжах амаль заўсёды паўтараецца заклік: «Ад агню, заразы і голаду барані нас Божа». Гэтыя словы пайшлі ўжо ў прыказку.

І сапраўды, нават у эпоху касмічных палётаў агонь не перастаў быць грознай знішчальнай стыхіяй. Хопіць прасачыць справаздачныя падлікі дзяржаўнага ведамства грамадскіх страхаванняў. Кожны год затраты ад агню ідуць у сотні мільёнаў злотых.

З агнём, як вядома, змагаюцца ў вёсках добраахвотніцкія супрацьпажарныя каманды. У Бельскім павеце ёсць іх звыш 70. Я наведаў адну з іх — у вёсцы Галады.

Жывой хронікай гэтай каманды з'яўляецца дзядзька Мікалай Пятроўскі, якому зараз ужо 72 гады.

— Пажарнікам, — гаворыць ён, — стаў я яшчэ ў 1912 годзе. Паступіў тады ў царскую гарадскую гродзенскую брэнкаманду.

Мікалай Пятроўскі не гледзячы на свой стары ўзрост усё яшчэ астаецца актыўным пажарнікам. У яго ў хаце памяшчаецца тэлефон і ён першы ў кожную хвіліну дня і ночы прымае трывожныя сігналы.

Начальнікам галадоўскіх пажарнікаў ад няпамятных год з'яўляецца Сцяпан Грыгарук — гаспадар, у якога 6 гектараў зямлі і якому зараз 57 год.

— Супрацьпажарная каманда ў Галадах, — расказвае ён, — была заснавана 40 год таму назад. Прыступіла тады да яе нейкіх 20 чалавек. Я стаў стражакам, як толькі падрос — у 1930 годзе. Ад гэтага часу да 1947 года быў намеснікам каменданта, а зараз ужо 21 год узначальваю нашу супрацьпажарную каманду.

Сапраўды пазайздросціць толькі Сцяпану Грыгаруку такой стойкасці і грамадскай ахвярнасці. У Бельску за гэты час (ад 1947 г.) на пасадзе Павятовага каменданта змянілася 12 чалавек, а ён, Сцяпан Грыгарук, у Галадах безупынна нясе сваю адказную грамадскую службу.

— Калі толькі заснавалася тут страж, — гаворыць Сцяпан Грыгарук, — вядома, нічога ў нас не было. Пачалі мы наладжваць вечарыны і па-



Галадоўскія пажарнікі на зборы.

хад. Хутка зноў пачне брацца рыба.

— Гайда, хлопцы, па дровы на вечар і ноч! — паклікаў сяброў разважліва Семафор.

Падымаліся не надта дружна — прыемна паляжаць у цяньку каля вогнішча.

Зноў разбрыліся па лесе. І раптам Юрка ўсхвалявана закрычаў:

— Хлопцы! Сюды барджэй... Я фрыца знайшоў! Усе збегліся да яго. Ля вываратня ў густой траве віднеўся вастраносы снарад. Чамусьці ён не разарваўся і ляжаў тут як спадчына вайны.

Піпін памкнуўся да снарада.

— Не чапай! Хай ляжыць тут. У сельсавет паведаміць трэба, каб падрыўнікоў выклікалі, — перасцярог Семафор.

Але Піпін не слухаў сябра. Ён падышоў бліжэй, спыніўся перад снарадам і прыгнуўся, шырока расставіўшы ногі.

Што ён надумаў?

— Га, гадзіна, фрыц паганы, фашыст! — не змяняючы пастаты, пачаў Эдзік лаяць нямецкі снарад. — Папаўся, гад! Зараз дамо табе пытлю!

— Піпін! Кажу табе — не чапай! Трэба падрыўнікоў выклікаць!

— Якія там падрыўнікі! Мы і самі дамо рады! Сцеражыся, хлопцы!

Не паспеў Семафор пераняць яго, як Эдзік нахіліўся і схапіў снарад. Хлопцы, што стаялі паблізу, кінуліся хто куды. Семафор скалануўся ўвесь, збялеў, але не пабег.

— Кладзі назад, узарвецца... — Ён зрабіў рух, каб адабраць снарад, і... стрымаўся: гэта было небяспечна.

Піпін не паслухаўся. Са звычайнай зухаватасцю, гарэзліва ўсміхаючыся, ён нёс знаходку ў бярэзнік і прыгаварваў:

— Ну, канцы табе прыйшлі... Больш нікому не пашкодзіш!

Дарэмна Семафор намагаўся ўрымсціць Піпіна. Той і слухаць нічога не хацеў.

— Зараз я так яго падарву, што аж чарцям моташна будзе! Хавайцеся толькі! — гаварыў ён, накіроўваючыся да вогнішча.

Семафор ішоў побач, не ведаючы, што рабіць, а хлопцы, адбегшы падалей пападалі на зямлю.

Піпін падышоў да вогнішча, нахіліўся і паклаў пачвару ў прыск. Тут Семафор схапіў сябра за руку і пацягнуў за сабой. Адбегшы, яны заляглі, чакаючы выбуху. Мінула хвілін дзесяць. Усё было ціха.

— Трэба падкінуць галля, — пачаў падымацца Піпін.

— Ляжы! — крыкнуў Семафор, хапаючы сябра за пінжак.

Аднак вёрткі Піпін вырваўся і кінуўся да вогнішча. Семафор за ім. Адным скачком ён дагнаў Піпіна, паваліў і прыціснуў да зямлі. І якраз у пару! У гэты момант моцны выбух скалыхнуў паветра. Вогнішча разлятелася ва ўсе бакі. Паніклі перабітыя асколкамі галінкі прыгажунь бяроз.

Аглушаны выбухам, прыціснуты раптам пацяжэлым Семафорам, Піпін не адразу адчуў, што па яго спіне цячэ штосьці цёплае і клейкае...

Ачуняў Семафор у бальніцы. Балела рука, ён не мог паварушыць ёю. У роце перасохла, губы зрабіліся шурпатыя, мучыла смага.

На зэдліку каля яго ложка сядзела незнаёмая цётка ў белым халаце. Ён папрасіў піць і не пачуў свайго голасу. Цётка заўважыла, што губы яго шавеляцца, прыўзняла яму галаву, уліла ў рот трошкі вады. Напіўшыся, ён адхіліўся на падушку. Пасля запытаў, дзе ён і што з ім.

Цётка на пытанне не адказала.

— Ляжы спакойна і маўчы! — загадала яна.

Але, каб што і адказала, ён не пачуў бы. Нейкая млявасць разлілася па ўсім целе, перад вачыма паплылі кругі, і Уладзік паваліўся некуды ў бездань — зноў страціў прытомнасць.

Праз колькі дзён урач на абходзе сказаў:

— Ну, цяпер усё страшнае ззаду. Вось толькі крыві шмат страціў. І ўсё праз сваю дурату.

Урач не ведаў, што дурата тая была не яго, а Піпінава, але Семафор нічым не выдаў сябра. Але дзе ж той Піпін? У бальніцы яго няма, ці жывы хаця... Трывогу развеяла сястра.

— Тут да яго хлопец кожны дзень прыходзіць. Малы такі. Можа, дазволіце наведаць? — запытала яна ўрача.

— Ненадоўга можна, — адказаў той. Уладзік здагадаўся: Піпін прыходзіў, але яго не пускалі. А цяпер дазволена.

Ён ляжаў і думаў: вайна была, калі яны з Піпінам яшчэ не нарадзіліся. Але вось дастала і іх. А колькі бяды пакінула пасля сябе... Тады... расказваюць, выгарэла ўся іхняя вёска. На папялішчы толькі коміны тырчалі, народ жыў у зямлянках. А людзей колькі загінула: хто на фронце, хто ад карнікаў, а хто ў нямецкай няволі...

Рыпнулі дзверы, і на парозе з'явілася маленькая постаць у непамерна вялікім бальнічным халаце. Перад Уладзікам стаяў Піпін з апушчанай галавой. Як ён змяніўся за гэтыя дні! Змарнеў, пазірае вінавата. Дзе дзелася звычайная гарэзлівасць...

— Даруй мне, Уладзік, праз мяне ты ледзь не загінуў... — і слёзы пацяклі з яго засмучаных вачэй.

— Ну, што ты, Эдзік! Я рады, што ты жывы застаўся... А я... Я хутка папраўлюся, вось толькі крыві шмат страціў, — пераказаў ён словы ўрача.

— Ведаеш што? — дадаў Семафор таямніча. — Прынясі мне печанай бульбы!

**Валерыян Ляшэвіч**

1. Аб якой знаходцы расказвае аўтар у апавяданні?
2. Ахарактарызуйце галоўных герояў апавядання.
3. Як вы ацэньваеце паводзіны Эдзіка-Піпіна і Уладзіка-Семафора?
4. Вызначце ў апавяданні пачатак дзеяння, кульмінацыйны пункт і заканчэнне дзеяння.

## ПРА „НАЙВЫШЭЙШУЮ ФОРМУ" Ў ТРАСЦЯНЦЫ

Дні асветы, кніжкі і прэсы. У Трасцянцы без святочнасцей. Грамадская бібліятэка ў канцы вёскі, вёска мае мо з два кіламетры. Вялікая такім вясковым метраполіям, як Чыжы або Новаберазова, Кленікі (па некалькісот хат). Не гавару аб Нарве ці Белавежы, бо ў мясцовай свядомасці гэта мястэчкі, не вёскі. У мястэчках усё ў цэнтры, не толькі ГРН-ны, але бібліятэкі таксама, ля рынку.

У Трасцянцы школа ў цэнтры вёскі, бо так яно павінна быць; пажарная раміза таксама пасярэдзіне, бо так зручней і слушна. Бібліятэка ў канцы гэтаксама як і ўлада ГРН у канцы, з той розніцай, што ГРН ужо запланавала сабе мураваны асабняк побач рамізы. У бібліятэцы больш трох тысяч кніжак, у іх ліку ўсяго каля 150 беларускіх; бібліятэка мае каля 120 чытачоў, а ў іх ліку большасць — гэта вучні мясцовай школы (дарослых чытачоў каля 50). У Трасцянцы каля трохсот хат, але лік чытачоў праўдападобна не датычыць толькі Трасцянкі. Найбольш рэальны лік, гэта адзін чытач на тры хаты, і то ўзіму, бо летам і вясною — адзін чытач на пяцьдзесяць хат...(?) Найбольш чытаюць вучні, амаль выключна вучні, а сярод іх: Юрак Семянюк з VIII кл. і малодшакласнікі — Марыся Амельянюк і Міша Астроўка. Маладым мова кніжкі не робіць розніцы, дарослым робіць, хочуць «кніжак з рускімі літарамі». Не думаю, каб інакай было і ў бібліятэчных пунктах у Іванках, Сацах, Пухлах, Агародніках ці Белках. Якраз атрымала бібліятэка свежы транспарт кніжак, штосьці каля паўсотні, у тым ліку ч а т ы р ы беларускія. Пішу ўсё ў надзеі, што прачытае гэта таксама і працаўніца павятовай бібліятэкі ў Гайнаўцы, Ольга Харкевіч, ад якой шмат залежыць напэўна, а якая родам з актыўнага БГКТ-аўскага асяроддзя ў Ляшуках.

Столькі аб бібліятэцы, якая з'яўляецца «ужэндам» адной з найбольшых на свеце праўд, што **найвышэйшай формай культурнай дзейнасці з'яўляецца чытальніцтва.** Ну, а што з «Нівою»? Начальнік трасцяніцкай пошты Іван Тамашук падлічыў, што ва ўсім яго паштовым раёне выпісваюць людзі (месяц май) 639 часопісаў і газет, «Нівы» — 151 экз. Абазначае гэта, што «Ніву» выпісвае больш-менш кожны чацвёрты падпісчык газет і часопісаў. Пісьманосцы: Уладзімір Андрэюк мае 77 падпісчыкаў «Нівы» і Мікалай Паламкевіч — 74 падпісчыкі. Большасць падпісчыкаў — гэта вучні (83-ох) — школа ў Сацах выпісвае 36, а ў Трасцянцы кожны чацвёрты вучань — 47 экз. «Нівы». Падпісчыкаў-гаспадароў 68. Апрача некалькіх выключэнняў уся падпіска на «Ніву» квартальная (па 7,20 зл.), 230 гаспадароў выпісвае месячнік «Agrochemia», падпіска паўгадовая, па 6 зл. Час канчаць параўнанні, рэфлексіі, пералікі. Ага, шыльда трасцяніцкай бібліятэкі ўсё ж такі вісіць у цэнтры вёскі, на сцяне клуба «Рух», які мае намер перанесціся ў рамізу, прасторную. (ся)



## Вішанкі з Мікуліч

Вёска Мікулічы знаходзіцца ў Сямяціцкім павеце на Беласточчыне. І вось з гэтай вёскі маладыя людзі з сям'і Вішанкаў выехалі ў Гданьск і пасля заканчэння прафесіянальных школ жывуць і працуюць у Гданьску. І так, Уладзімір працуе ўжо 6 год. Спецыяльнасць яго — столяр. Валя Вішанка — краўчыха, працуе другі год. Сцяпан Вішанка — муляр. А іх дваюрадны брат Уладзімір Вішанка працуе манцёрам. Усе Вішанкі з'яўляюцца членамі Гданьскага гуртка БГКТ. На здымку: Усе Вішанкі і Мікола Такаюк.

Тэкст і фота
**М. Хмялеўскі**

танцоўкі, ды так узбяралі крыху грошай на першую пажарную помпу — яшчэ царскай прадукцыі. Зараз знаходзіцца яна ў варшаўскім музеі. Пазней памалу камплектавалі іншае абсталяванне. Ад сакавіка 1965 года маем ужо супрацьпажарны самаход. Ён ужо стары і выпрацаваны, але неяк нам служыць. У 1954 годзе грамадскім чынам пабудавалі мы стражацкую рамізу.

Зараз галадоўская супрацьпажарная каманда налічвае 37 чалавек. У кожнай трэцяй хаце вёскі ёсць адзін пажарнік. Найбольш актыўнымі сярод іх начальнік лічыць: Сцяпана Васілюка, Георгія Магрука, Пятра Стрэльчука, Пятра Кудэрскага, Пятра Яконюка, Георгія Селевонюка, Віктара Паўлючука, Уладзіміра Раецкага і Сяргея Кудэрскага.

У мінулым годзе заснавалася ў Галадах жаночая каманда супрацьпажарнай стражы. Дзесяць маладых дзяўчат, якімі кіруе Жэня Любавіцкая, рашыла дапамагаць у цяжкай службе мужчынам. На спаборніцтвах у Бельску галадоўскія дзяўчаты-пажарнікі заваявалі першае месца.

— Хай вучацца, — кажа начальнік Грыгарук. — Я ім ахвотна дапамагаю. Да пажараў пакуль што нашых дзяўчат не высылаем. Але не вядома, што можа здарыцца ў жыцці. У нашым неспакойным свеце кожны малады чалавек павінен умець змагацца з агнём.

Старэйшым галадоўскім пажарнікам — гэты з даваенным яшчэ стажам — лічыцца таксама Рыгор Грыгарук, якому зараз 60 год.

— Мы сваёй дзейнасці, — гаворыць ён, — не спынялі нават у вайну. І ў 1939, і ў 1941, і пасля 1944 пад кулямі ратавалі людское дабро. Я сам у розных гадах ездзіў гасіць пажар у вёсках: Відава, Парцава, Волька, Шчыты, Пасынкі, Сакі, Агароднікі і ў іншыя, пра якіх ужо забыў.

Цяпер галадоўскім пажарнікам прыходзіцца змагацца з агнём у сярэднім па 4—5 разоў у год. Вось нядаўна выклікалі іх у Орлю і ў Бельск. Аднак падрыхтоўка да баявога дзеяння ідзе пастаянна. Прынамсі раз у месяц галадоўскія пажарнікі наладжваюць абучальныя заняткі.

Такой традыцыі і актыўнасці пажадаць бы іншым супрацьпажарным камандам. Тады агонь стаўся б менш грозным знішчальнай стыхіяй.

**В. Рудчык**



## ГАСПАДАР на ўзроўні ЧАСУ

Адным з лепшых гаспадароў у Герасімаўцах лічыцца Міхась Кулак. У яго добрае забудаванне. Некалькі год таму назад пабудаваў ён з пустакаў вялікі, бо 14х7 м хлеў. У гэтым хляве мае шмат жывёлы. 11 галоў свіней, 3 штукі кароў, добры конь, каля 50 курэй, некалькі авечак і гусак. Калі ўзяць пад увагу, што ў Міхася Кулака 7 га зямельных угоддзяў (у гэтым палавіна сенажаці), дык можна сказаць, што з яго добры жывёлагадоўца. Ён шмат мяса прадае дзяржаве. Напрыклад, у мінулым годзе меў ён законтрактаваных 5 кормнікаў і 2 ialоўкі.

Міхась Кулак кожны год кантрактуе таксама 0,40 га тытуню і заўсёды атрымоўвае за яго 15—16 тыс. зл. Заўсёды добрыя ўраджаі ў яго на сенажаць. Не менш, як на 50 кг чыстага рэчыва мінеральных угнаенняў дае на свае сенакосы.

Міхась Кулак з'яўляецца перадавіком аховы раслін. Выконваючы гэтую функцыю, каму як каму, але ўжо сабе заўсёды ён дакладна спырсквае хімічнымі сродкамі свае палеткі і гэтым самым знішчае пустазелле. Вядзе ён таксама барацьбу і са стонкай. Праца на гаспадарцы даволі цяжкая, невымерная ў часе. Сяляне працуюць вельмі часта ад ночы да ночы. Міхась Кулак гаспадарыць са сваёй жонкай Верай. Часам крыху памагаюць дарослыя дзеці, якіх у яго ёсць чацвёра. Але толькі часам, бо ўсе яны працуюць у дзяржаўных прадпрыемствах. Адзін з сыноў нядаўна вярнуўся з войска і пакуль што памагае на гаспадарцы.

А ўжо Міхасю Кулаку хацелася б пажыць лягчэй, хацелася б менш працаваць. У сваёй вёсцы ў прэзідыуме ГРН з'яўляецца ён сур'ёзным чалавекам. Ужо некалькі кадэнцый па чарзе выбіраецца ён грамадскасцю на раднага ГРН у Ружаным Стоку. Раней быў ён радным Павятовай рады нарадовай у Дуброве, а таксама лаўнікам павятовага суда. І не гледзячы на свае 60 год, Міхась Кулак яшчэ добра ўпраўляецца, як на гаспадарцы, так і ў грамадскай працы. Ён, як член ПАРП, а таксама як член свайго сельскагаспадарчага гуртка, усё робіць, каб большыя мець ураджаі на полі, сенажаці, а таксама ў жывёлагадоўлі. Вядома, што ўсё прыходзіцца не лёгка, што ўсюды патрэбная цяжкая праца. Але ж хто на вёсцы баіцца працы, ды такой працы, якая прыносіць карысці і сабе і дзяржаве? Галоўнае, каб было здароўе, бо здароўе таксама багацце — багацце найдаражэйшае.

**Міхась Хмялеўскі**

 

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# Прачнуўшыйся кантынент

Кожны год 25 мая ўсё прагрэсіўнае чалавецтва адзначае Дзень вызвалення Афрыкі. Афрыка — другая па велічыні частка свету на зямным шары. Яе плошча 29,2 мільёнаў квадратных кіламетраў (з выспамі — 30,3 мільёна). Насельніцтва (на сярэдзіну 1965 года) складала 310 мільёнаў. За апошні год прырост насельніцтва на Афрыканскім кантыненце асягнуў 7 мільёнаў асоб.

У цяперашні час свабоднай у палітычных адносінах стала Паўночная, Заходняя і Усходняя Афрыка. Тут знаходзіцца 39 незалежных афрыканскіх дзяржаў. Атрымаўшы палітычную самастойнасць, афрыканскія незалежныя дзяржавы працягваюць безупынную барацьбу за ліквідацыю эканамічнай і культурнай адсталасці. Варта падкрэсліць, што ў Афрыцы адзін лекар прыпадае на 50 тысяч жыхараў.

Асабліва вялікіх поспехаў дабіліся тыя краіны, якія ўзялі курс на сацыялізм. ААР, Алжыр, Малі, Гвінея, Конга (Бразавіль) і іншыя, што сталі на шлях некапіталістычнага развіцця, праводзяць нацыяналізацыю капіталістычных прадпрыемстваў, канфіскуюць феадальныя маёнткі, выганяюць заграанічныя манаполі. У гэтых краінах развіваецца дзяржаўны сектар у эканоміцы, праводзіцца індустрыялізацыя, ажыццяўляецца сацыяльнае заканадаўства.

Штораз шырэй развіваецца кааператыўны рух у краінах Афрыкі. У Тунісе, у 525 сельскагаспадарчых кааператывах аб'яднаны 111 тысяч сялян. У Судане кааператывам урад перадаў сотні тысяч гектараў зямлі разам з нерухомай маёмасцю памешчыкаў.

На ўзбярэжжы Індыйскага акеана (усходняя Афрыка) пачата будаўніцтва міжнароднага порта для суднаў Конга, Бурундзі, Уганды і Танзаніі. Новая гавань будзе мець важнае значэнне для гаспадарчага развіцця краін Усходняй Афрыкі. Авіяпарк афрыканскіх краін, які налічваў у 1963 годзе 380 машын, у 1966 годзе вырас да 700. Мяркуецца, што да пачатку 70-х гадоў лік самалётаў афрыканскіх краін дасягне тысячы.

Актыўную падтрымку афрыканскім краінам у іх барацьбе з імперыялізмам і каланіялізмам аказваюць сацыялістычныя краіны. З года ў год пашыраецца гандаль і навукова-тэхнічнае супрацоўніцтва незалежных краін Афрыкі з лагерам сацыялізма. Усё мацней і больш упэўнена гучыць голас свабодных афрыканскіх краін з трыбуны ААН і на сусветнай палітычнай арэне. Але яшчэ не ўсе народы Афрыкі свабодны. Калоніі, пратэктараты, «правінцыі», «заморскія тэрыторыі» і іншыя каланіяльныя ўладанні на Афрыканскім кантыненце займаюць каля 15 працэнтаў тэрыторыі, на якой жыве 7 працэнтаў насельніцтва кантынентаў. Гэта 70 працэнтаў плошчы і 56 працэнтаў насельніцтва ўсяго каланіяльнага свету. У цяперашні час нацыянальна-вызваленчы рух на гэтым кантыненце носіць найбольш актыўны характар у партугальскіх калоніях — Анголе, Мазамбіку і «Партугальскай» Гвінеі. Збройная барацьба ангольскага народа выходзіць на новыя рубяжы. Паўстанцкія сілы кантралююць у цяперашні час раёны Намбонгонга і Бембаса, а таксама вялікі масіў трапічных лясоў Майомб. Адкрыты новы, другі фронт вызваленчай барацьбы на ўсходзе краіны на граніцы з Замбіяй.

Поспехі афрыканскіх народаў у барацьбе за незалежнасць выклікаюць лютае супрацьдзеянне з боку імперыялістычных дзяржаў, якія, выкарыстоўваючы эканамічныя і палітычныя цяжкасці, правацыруюць сутыкненні паміж паасобнымі грамадскімі, нацыянальнымі, рэлігійнымі і племяннымі групамі, імкнучыся падарваць гэтым адзінства афрыканскіх краін.

Мільёны людзей усёй зямлі падтрымліваюць вызваленчую барацьбу народаў Афрыкі. (ха)

**На здымку: У гэтых сучасных будынках знайшлі памяшканне некаторыя факультэты універсітэта Усходняй Афрыкі паблізу сталіцы Танзаніі.** ▼




Варожасць да драпежных звяроў сучасны чалавек пераняў ад сваіх продкаў. Леў, тыгр, мядзведзь, леапард, рысь, воўк — няцяжка зразумець страх даўняга чалавека, які сутыкаўся з гэтымі звярамі. Пазней, калі паявілася вогнестрэльная зброя, гэтыя драпежнікі сталі мала небяспечнымі чалавеку — але надалей знішчалі яны хатнюю жывёлу.

Абараняючы свае здабыткі, чалавек аб'явіў бязлітасную вайну драпежнікам. Гэта вайна цягнулася многія вякі і не магла не пакласці свайго адбітку на нашы погляды наконт драпежных звяроў. Драпежнік — вораг! Аднак такое разуменне ў наш час аказваецца нават шкодным.

Возьмем для прыкладу ваўка. Абвінавачваем яго ва ўсім. У многіх краінах ваўкоў ужо няма амаль зусім, яны вынішчаны былі яшчэ ў XVII ст. у горных ваколіцах Шатландыі. Цяпер у той жа Шатландыі вучоныя прапануюць пасяліць ваўкоў, а таксама амерыканскіх бурых мядзведзяў і рысяў. Справа ў тым, што драпежныя звяры забіваюць, перш за ўсё, слабыя штукі звяр'я — слаба развітыя, хворыя і т. п. Такім чынам, робяць яны як бы селекцыю, ачышчаюць лясы — бо толькі слаба развітыя або хворыя штукі найлягчэй упаляваць. Драпежніку, вядомая рэч, абы мяса.

Польскія паляўнічыя думаюць ужо аб тым, каб забараніць вынішчанне ваўкоў — каб паляваць на іх гэтаксама, як і на іншых звяроў, г.зн. у паляўнічы сезон. У некаторых краінах Азіі і Афрыкі забаронены паляванні на ільвоў і тыграў, якіх засталося ўжо вельмі мала. Існаванне гэтых драпежнікаў неабходнае для падтрымання высокай жыццяздольнасці многіх гатункаў звяроў, так сказаць, недрапежных. Чалавек са сваёй дубальтоўкаю ці ружжом не можа замяніць драпежнікаў у «дбайнасці» аб вынішчэнне нежыццяздольных або хворых штук звяр'я. Практыка паказала, што з рук чалавека гінуць, пераважна, найлепшыя штукі, якія маглі б толькі палепшыць якасць данага гатунку.

На заканчэнне яшчэ адзін доказ: аказваецца, што вынішчанне некаторых драпежнікаў прыносіць эканамічныя шкоды. У Каліфорніі ў 1962 годзе на вынішчэнне кайётаў патрачана 90 тысяч долараў, а сума прычыненых імі шкодаў не перавышала трох з палова тысяч долараў!

Вядома, ніхто тут не выступае за тое, каб спецыяльна разводзіць вялікую колькасць ваўкоў ці іншых драпежнікаў. Драпежнікаў павінна быць мала, але зусім вынішчыць іх гэта было б неразумна. (а-ся)

*

Да гарачага праса «прыварыўся» крухмал ад бялізны. Якую тут дасі раду? Вазьміце шматок фланелі, выцісніце на яго крыху пасты для зубоў і пашмаруйце прас. Калі плямы знікнуць, адпаліруйце сухой анучкай.

*

Металічныя наканечнікі шнуркоў хутка адпадаюць, і мы нямала пакутуем, пакуль уціснем растаптаны шнурок у цесную дзірачку чаравіка. Гэтай бядзе можна памагчы. Вазьміце кавалачкі мяккай бляхі ад пустога цюбіка




з-пад зубной пасты, вымыйце іх і закруціце кончыкі шнурка. Злёгку закляпайце малатком. Будуць служыць лепей за фабрычныя! Ёсць і яшчэ спосаб: абмакніце кончыкі шнуркоў у лак для пазногцяў.

*

Не выкідайце старых шчотак для зубоў. З іх будуць добрыя «памазкі» для гуталіну. Яны служаць лепей за спецыяльныя шчоткі для чысткі абутку, што прадаюцца ў магазінах, бо добра «заганяюць» пасту ва ўсе паглыбленні скуры.






Дзевяты дзень прабывання Карцава ў падзямеллі Абста. Яго зноў канваіруюць да шэфа.

— Вас чакае добрая вестка! — урачыста кажа Абст. — Уладай, дадзенай мне фюрэрам, аб'яўляю вас воінам германскага рэйха. Прачытайце паперу і падпішыце.

Карцаў чытае ўслых:

— «Я клянуся: я буду верны і паслухмяны фюрэру германскай імперыі і народа Адольфу Гітлеру, буду трымацца законаў і сумленна выконваць свае службовыя абавязкі».

Карцаў падпісваецца пад прысягай.

— Для праходжання службы адправіцеся на радзіму, — гаворыць Абст. — Там атрымаеце прызначэнне.

— Калі ж мяне адпраўляць?

— З першым транспартам. Відаць, хутка. Тэрміну назваць не магу: вайна, а мы так далёка ад сваіх...

— Я разумею.

— Выглядаеце вы разгубленым. Хочаце аб чымсьці спытаць?

— Так. Адпраўкі давядзецца чакаць тыдні? Мабыць месяцы?

— Магчыма.

— І ўвесь гэты час я буду лодырнічаць?

Абст аблізвае губу.

— Хочаце працаваць?

— Вядома.

— Добра, Рэйнхельт, я дам вам працу. — Абст устае, нейкі час ходзіць па пакоі, потым падсоўвае свой табурэт да Карцава, сядае. — Я дам вам цікавую працу. Ад таго, як яна будзе выканана, залежыць ваша кар'ера ў Германіі.

— Пастараюся быць карысным.

— Хачу мець надзею... Сёння я прадстаўлю вас нашаму лекару. Гэта жанчына. У яе было сільнае нервовае сутрасенне. У выніку адняліся ногі. Паспрабуйце дапамагчы. Апрача гэтага вам давядзецца абслужваць групу хворых, якіх абслужвала яна. А потым прыйдзе транспарт, і вы паедзеце разам з ёю. — Абст вытрымлівае паўзу. — Я адпраўлю вас абодвух адным рэйсам.

Карцаў не ашукоўваецца наконт падрыхтаванай яму долі. Залічэнне «воінам германскага рэйха», «прысяга», якую ён толькі што падпісаў, будучая адпраўка ў Германію — усё гэта хлусня, выдумка Абста, разлічаная на тое, каб ён, Карцаў, працаваў лепей, з ахвотай. Але... Рышэр? «Я адпраўлю вас адным рэйсам». Няўжо і ёй вызначана смерць?

— Цяпер пяройдзем да галоўнага, — даносіцца да яго голас Абста.

— Так, я слухаю вас...

— Называйце мяне проста: шэф. Я хірург і псіхіятр. Я вярнуў грамадству шмат сваіх пацыентаў. Але аднойчы я пацярпеў жорсткі крах у працы над групай маракоў. Я прымяніў усе сродкі але дарма. Яны былі безнадзейны. І тады я пайшоў на рызыкоўны крок. Год шэсць назад я вывез з Паўднёвай Амерыкі сільны раслінны яд. Індзейскія знахары прымяняюць яго для лячэння некаторых псіхічных расстройстваў... Група маракоў памерла, але мне ўдалося дабіцца таго, што стан адноснага псіхічнага прасвятлення хворых цягнецца безупынна некалькі месяцаў, пакуль рэгулярна ім уводзіцца прэпарат. Але спознішся з раздачай прэпарата — наступае катастрофа: перад табой зверы, апантаныя маніяй забойства... Такая група хворых знаходзіцца тут. Яна была пад апекай нашага лекара. Цяпер лекар выбыў. Дык вось, яго заменіце вы. Запамятайце: з моманту, калі вы ўступіце ў кантакт з хворымі, жыццё ваша ў вялікай небяспецы. Вы павінны добра ўсведаміць: найменшая недакладнасць у працы з імі, памылка пры вызначэнні дадзеных, па якіх выдзяляецца рацыён спецыяльнага прэпарата, спазненне ці затрымка з яго прымяненнем — і вас разарвуць у кавалкі... Вы зразумелі?

— Думаю, так.

— Доктар Марта Рышэр падрабязна праінструктуе вас. Слухайце яе ўважліва.

— Разумею, шэф.

— Вам катэгарычна забараняецца весці з ёю пабочныя гутаркі. Ніякіх звестак аб сабе. Вы — лекар, прыбылі з Германіі, вось і ўсё. У вас ёсць пытанні?

— Мне здаецца, усё, што трэба, вы сказалі.

— І вам не страшна?

— Мне страшна, шэф. Аднак я гавару сабе: спраўлялася ж з імі жанчына!

— Слушна. — Абст з цікавасцю глядзіць на Карцава. — А цяпер апошняе. Вы павінны ведаць, навошта гэта група знаходзіцца тут, так далёка ад бліскучых берлінскіх клінік... Дык вось, што вам вядома аб камікадзе і кайтэнс?



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## 26.V. — «ДЗЕНЬ МАЦІ»



Ларыса Матосік з дочкамі.

У выхаванні дзяцей найбольшую ролю адыгрывае маці. Да яе належаць найцяжэйшыя абавязкі: накарміць, адзець, дагледзець вопратку і абутак, прычасаць, выправіць у школу і г.д. Без маці «прапаў бы» бацька з малымі дзяцьмі.

Слава нашым маці, якія столькі сэрца аддаюць дзецям і маленькім, і дарослым.

Тэкст і фота
М. С.
Гарадок

## ПРАЦАВІТЫЯ ЛЮДЗІ

У Беластоцкім павеце знаходзіцца вёска Цільвічы. Ляжыць яна блізка шашы на адрэзку Заблудаў—Міхалова. Сяляне гэтае вёскі пры дапамозе Цёткі Мальвіны атрымалі дазвол разабраць у Подварках будку, якая прызначана была для пасажыраў ПКС. Разабралі яе і перавезлі на свой прыпынак. Перад 1 мая грамадскім чынам пабудавалі яе і то даволі прыгожа. Праезджыя гавораць, «Пэўна баяцца, каб зноў не чаплялася Цётка Мальвіна». Пры гэтай пабудове многія ахвярна працавалі, але найбольш працаваў Чэслаў Гранацкі.

Варта дадаць, што жыхары Цільвіч зраўнялі пляц і навазілі зямлі ў знаходзячыеся там ямы. Словам, зрабілі вельмі прыгожа. Брава Цільвічане — так быць павінна.

**Мікалай Краўчук**
Патока

## АПЛАЧАНЫ СКЛАДЧЫНЫ

Члены гуртка Беларускага таварыства ў Грушцы (Гайнаўскі павет) ужо ў 100% аплацілі складчыны за гэты год. Варта іншым гурткам БГКТ узяць прыклад з бэгэкатоўцаў з Грушкі.

(мх)

---

— Упершыню чую гэтыя словы.

— Па-японску камікадзе — лётчык набітага ўзрыўчаткай самалёта. Пры ўзлёце ён пакідае шасі на аэрадроме. Такім чынам, вяртанне немагчыма. Пілот не можа і выскачыць з самалёта — у яго няма парашута. Астаецца адно: ён адшуквае цэль, пікіруе. Выбух!..

Карцаў разумее, што Абст чакае яго рэакцыі. Ён маўчыць.

— Кайтэнс, — працягвае Абст, — гэта чалавек, які робіць тое самае, але пад вадой, седзячы на кіраванай тарпедзе. Тут таксама ён не выратуецца. Як вам усё гэта падабаецца?

— Ну што ж, — асцярожна гаворыць Карцаў, — наколькі я разумею, гэтыя людзі добраахвотнікі... Словам, прыгожая смерць, хоць ад усяго гэтага... м-м... нясе сярэдневяковым варварствам.

Абстківае.

— Самае сапраўднае варварства! — пацвярджае ён. — Уявіце толькі: гінуць здаровыя людзі, у росквіце сіл, у поўнай свядомасці. Не, мы не маглі пайсці па такой дарозе, хоць і ў нас не мала герояў, гатовых памерці за фюрэра... Але ж іншая справа, калі чалавек безнадзейна хворы, а да таго яшчэ і страціў розум! Некалькі тыдняў, мабыць, месяц, ці два і — ён памрэ. Ён усё роўна асуджаны. Вы разумееце мяне?..

**(Працяг будзе)**

## • СПАТКАННІ З АФІЦЭРАМІ

Ва ўсіх школах на тэрыторыі ГРН у Старым Ляўкове 20 красавіка г.г. адбыліся сустрэчы школьнай моладзі з афіцэрамі. Афіцэры цікава расказваюць аб Людовым Войску Польскім, аб яго ўзнікненні і баявым шляху.

Вучні з зацікаўленнем слухалі расказаў аб штодзённым жыцці салдата ў арміі, аб кантактах салдат з «цывільнымі» жыхарамі.

Слухачы вынеслі з сустрэч найлепшыя ўражанні. Іх заўсёды цікавіць салдат. Яны многа чытаюць аб іх, аб сучаснай ваеннай тэхніцы ў прэсе, у кніжках. А вось так сустрэцца ў класе не часта даводзіцца.

Ц. Я.
Ахрымы

## ПАПУЛЯРНА-НАВУКОВАЯ СЕСІЯ

27 і 28 красавіка адбылася папулярна-навуковая сесія ў агульнаадукацыйным ліцэі ў Міхалове. Тэмай сесіі была 25-ая гадавіна Войска Польскага. У першы дзень сесіі Аліцыя Трахімчук, Аляксандр Зіневіч, Ян Лех і Рэгіна Аслаўская прачыталі свае даклады аб Войску Польскім. Пасля быў высветлены дакументальны фільм «Верасень».

На другі дзень былі прачытаны яшчэ тры даклады аб баявым шляху Войска Польскага. Дакладчыкамі былі: Ежы Урвановіч, Ян Галіцкі і Юлія Бура.

Сесію падрыхтаваў школьны гістарычны гурток, які працуе пад кіраўніцтвам настаўніка Януша Пікулінскага.

**Уладзімір Азябла**
Пянькі




**Дарагое Сэрцайка!**

3 гады таму назад я ажаніўся з Марысяй. Марыся мне спадабалася адразу, таму мы пасля месяца знаёмства пажаніліся. Я вельмі спакойны, а Марыся гаваркая, вясёлая. Мне і падабаліся вось такія дзяўчаты. Марыся працавала ў горадзе ў фабрыцы. Калі мы пажаніліся, яна вымушана была пакінуць горад і прыйсці на гаспадарку (яна таксама дачка гаспадара). Жывем мы вельмі згодна. Маем паўтарагадовага сына. Марыся вельмі добрая жонка. Дбае пра мяне, пра дзіцё. У хаце заўсёды чыста, задбана. І ежу гатаваць таксама ўжо навучылася. Дагэтуль я быў шчаслівы. Але вось што здарылася. Два тыдні таму я сустрэў свайго даўняга калегу, які вучыўся ў горадзе і там астаўся працаваць. Ён таксама ведае маю Марысю. (Яна ў тым часе працавала ў фабрыцы). Мы сустрэліся ў Б., пайшлі ў рэстаран і трохі выпілі. Міша сказаў мне, што ён калісьці сябраваў з маёй Марысяй, але не хацеў ажаніцца, бо яна мела, як кажуць, дрэнную апінію. Мне было вельмі прыкра слухаць аб такіх рэчах. Ад гэтага часу я стаў неспакойным. Вярнуўшыся дамоў па-п'янаму, сказаў усё Марысі. Яна плакала, тлумачыла мне, што ўсё няпраўда, апрача таго, што Міша сапраўды хацеў з ёю жаніцца, аднак гэта яна не згадзілася за яго выйсці замуж. Мы першы раз пасварыліся і не гаварылі з сабой пару дзён. Што рабіць, як даведацца аб праўдзе?

Коля з Гайнаўшчыны

**Дарагі Коля!** Маеш добрую жонку, кахаеце адзін аднаго, маеце дзіцё. Вашае сужыццё ўкладалася вельмі добра. Дык чаго хочаш больш? Пашто шукаеш непатрэбных клопатаў? Перш за ўсё трэба верыць Марысі, а не людзям. Многа хлопцаў, якіх не хочуць дзяўчаты, потым хваляцца, што яны не захацелі з імі жаніцца і выдумляюць усялякія плёткі. Гэта проста іх помста, хоць агідная. Не толькі я табе не раю даведвацца праўды, але перастаць увогуле думаць аб глупствах, перапрасі Марысю, і хай вашае жыццё ізноў бяжыць простай шырокай дарогай, без ніякіх перашкод, як дагэтуль.

Жадаю ўсяго найлепшага.

## КАБ НЕ БЫЛО ПУСТАЗЕЛЛЯ

У грамадзе Храбалы ў гэтым годзе паводле плана ГРН хімічнае нішчэнне пустазелля ахопіць 48% плошчы пасеваў. Прэзідыум ГРН забавязаў праўленні сельскагаспадарчых гурткоў і механізатара ПОМ-у да адпаведнай падрыхтоўкі і кансервацыі існуючай апаратуры коннай і трактарнай аховы раслін, а праўленні сельгасгурткоў супольна з грамадскім аграномам забавязаў апрацаваць гарманаграмы працы гэтай апаратуры.

Прэзідыум ГРН выступіў з пастулатам у ГС у Бельску Падляшскім аб сарганізаванні ў Райску, Гацьках, Кнаразах і Плёсках пунктаў камісовага продажу сродкаў аховы раслін.

Стала цяпло. Усё буйна расце. Расце таксама пустазелле. Як будзе рэалізавацца на вёсках пастанова прэзідыума ГРН адносна аховы сельскагаспадарчых культур, незадоўга можна праверыць.

А кантроль выканання пастаноў неабходны.

**Аляксандр Трахімчук**
Храбалы

## ЧЫН ШКОЛЬНІКАЎ



Вучні падчас працы ў лесе.

Вучні з Ляўкова працавалі ў лесе на пасадках. За заробленыя такім чынам грошы купяць фарбу і памалююць плот пры школе. Апрача таго збудуюць цэментовую сцежку ад дарогі да школы, выбрукуюць уезд на школьны панадворак, пасадзяць кветкі і дрэўцы, упарадкуюць школьны пляц.

Тэкст і фота
**Янка Цялушэцкі**

## МІЛЕЙЧЫЦКАЯ ГАСПОДА

Чаго найбольш прадаецца ў Мілейчыцкай гасподзе, не цяжка адгадаць. Вядомым ёсць, што тут шмат выпіваецца водкі, а прадукцыі кулінарнай заўсёды тут недахоп. У 1966 годзе кулінарная прадукцыя ў агульным грашовым абароце складае толькі 12,5%, а алькагольныя напіткі 48,2%. У 1967 годзе кулінарная прадукцыя акрэслівалася 13,1%, а алкагольныя напіткі — 42,7%. Праўда, з гэтых дадзеных відаць, што менш продана водкі (выпіта магчыма што і менш), але харчаванне, закуска, абеды амаль той самы працэнт. У гэтай галіне нічога відавочна не было зроблена. А гэта ўжо дрэнна. У гасподзе перш за ўсё чалавек павінен мець што з'есці.

(х)
Мілейчыцы

## МЯШАНКІ І БУДАЎЛЯНЫЯ МАТЭРЫЯЛЫ

На спецыяльныя мяшанкі для жывёлы ўсё большае запатрабаванне на вёсцы. У Мілейчыцкім ГС у 1966 годзе продана іх 198 тон, а ўжо ў 1967 годзе — 386 тон. На будучы год згодна з планам мяшанак будзе продана каля 10% больш, чым у мінулым годзе.

Матэрыялаў будаўляных Мілейчыцкі ГС у 1966 годзе прадаў: цэменту 480 тон, цэглы — 154 тысяч штук, этарніту фалістага — 2750м², а папы — 9800м². У 1967 годзе цэменту — 1.1000 тон, цэглы — 183 тыс. штук, этарніту фалістага — 5.600 м² і папы — 13.300 м². У гэтым годзе ўсе гэтыя будаўляныя матэрыялы маюць яшчэ большы попыт.

(м)

## НА ТЭЛЕВІЗІЙНЫЯ ПЕРАДАЧЫ



У клубе селяніна ў Плёсках (Бельскі павет) найбольш збіраецца людзей увечары. Тэлевізійныя перадачы моцна цікавяць людзей. А кіраўнік клуба Анатоль Дзмітрук падказвае часта, калі будзе цікавы фільм. Ён сваім падыходам да людзей стварае ў клубе прыемную атмасферу. Яго бачым у час уключання тэлевізара.

Тэкст і фота
**Лёня Леанюк**
вёска Плёскі

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Miłość w przyrodzie" (węgierski), 28—29. V. „Śmierć biurokraty" (kubański), 30. V — 31. V. „Bumerang" (polski), 1 — 2. VI.

**Дубіны**
„Grymasy" (węgierski), „Kaukazka branka" (radz.), 1 — 2. VI.

**Нараўка**
„Dr Fabrizus działa" (NRD), „Po wielkiej burzy" (NRD), 29. V.—2. VI.

**Нарва**
„Na tropach szpiega" (radz.), „Po kruchym lodzie" (radz.), 29. V—2.VI.

**Чыжы**
„Czterej pancerni i pies" (polski), 29. V. — 2. VI.

**Дубічы Царкоўныя**
„Dzieci Don Kichota" (radz.), „Dzielnica kruków" (szwedzki), 29.V. — 2. VI.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Kamo znany osobiście" (radz.), „Kamo niebezpieczna misja" (radz.), 29. V. — 2. VI.

**Орля**
„Czterej pancerni i pies" (polski), 29. V. — 2. VI.

**Райск**
„Grek Zorba" (USA), „Jej siedem wieczorów" (czeski), 29. V. — 2. VI.

## БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Ulica nadmorska" (radz.), „Bumerang" (polski), 28.V. — 31.V.

**Міхалова**
„Szalone wakacje" (jugosł.), 28.—29.V. „Siódmy przysięgły" (franc.), 30—31.V. „10 indian" (USA), 1 — 2. VI.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Trudne godziny" (radz.), 28—29. V. „Człowiek, który zabił Liberty Valencea" (franc.), 30.V.—2.VI.

**Шудзялава**
„Jowita" (polski), „Chewzburska ballada" (radz.), 29.V. — 2.VI.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Tarahumara" (meksykański), 28.—29.V. „Zaufaj mi Anno" (węgierski), 30.V. — 31.V. „Skąpani w ogniu" (węgierski), 1—2.VI.

**Новы Двор**
„Sami swoi" (polski), „Sami na wyspie" (jugosł.), 1—2.VI.

**Ліпск**
„Kochankowie z Marony" (polski), „Miłość jednej nocy" (rumuński), 1—2.VI.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. G-3 NAKŁAD 7322

